АФІЦЫЙНА

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 562
## Аб святкаванні 80-годдзя з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі

У сувязі з маючым адбыцца 1 студзеня 1999 г. 80-гадовым юбілеем з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі *пастанаўляю:*

1. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

утварыць Рэспубліканскі арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы і правядзенню ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі;

вызначыць крыніцы фінансавання расходаў на падрыхтоўку і правядзенне гэтых мерапрыемстваў.

2. Арганізацыйнаму камітэту зацвердзіць план урачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных святкаванню 80-годдзя з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

3. Міністэрствам, іншым рэспубліканскім органам дзяржаўнага кіравання, мясцовым выканаўчым і распарадчым органам аказваць садзейнічанне Рэспубліканскаму арганізацыйнаму камітэту па падрыхтоўцы і правядзенню ўрачыстых мерапрыемстваў, прысвечаных 80-годдзю з дня ўтварэння Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*1 снежня 1998 г., г.Мінск.*

### УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 563
## Аб аб'яднанні раёнаў і гарадоў абласнога падпарадкавання, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, у адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку

У мэтах удасканалення сістэмы дзяржаўнага кіравання, а таксама па прадстаўленню Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь з улікам думкі насельніцтва і са згоды Саветаў дэпутатаў адпаведных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак *пастанаўляю:*

1. Аб'яднаць наступныя раёны і гарады абласнога падпарадкавання, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр:

Вілейскі раён і горад Вілейку ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Вілейскі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Вілейка;

Ваўкавыскі раён і горад Ваўкавыск у адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Ваўкавыскі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Ваўкавыск;

Горацкі раён і горад Горкі ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Горацкі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Горкі;

Калінкавіцкі раён і горад Калінкавічы ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Калінкавіцкі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Калінкавічы;

Асіповіцкі раён і горад Асіповічы ў адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Асіповіцкі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Асіповічы;

Рагачоўскі раён і горад Рагачоў у адну адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Рагачоўскі раён з адміністрацыйным цэнтрам горад Рагачоў.

Аб'яднанне гэтых раёнаў і гарадоў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з палажэннем аб парадку вырашэння пытанняў, звязаных з аб'яднаннем аднайменных адміністрацыйна-тэрытарыяльных адзінак, якія маюць агульны адміністрацыйны цэнтр, зацверджаным Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 29 верасня 1998 г. № 468 (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 28, арт.713).

2. Гомельскаму, Гродзенскаму, Мінскаму і Магілёўскаму аблвыканкамам прыняць меры па выкананню гэтага Указа і ў месячны тэрмін з дня ўвядзення яго ў дзеянне вызначыць структуру і штатную колькасць наваствораных райвыканкамаў для забеспячэння эфектыўнага кіравання раённай і гарадской гаспадаркай.

3. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*1 снежня 1998 г., г.Мінск.*

## ПРЭМ'ЕР-МІНІСТР НАВЕДАЎ ЧЭРВЕНЬСКІ РАЁН

Прэм'ер-міністр Сяргей Лінг 1 снежня працягваў знаёміцца са становішчам спраў у сельскай гаспадарцы і гандлі Мінскай вобласці. Ён пабываў на шэрагу жывёлагадоўчых фермаў і ў магазінах Чэрвеньскага раёна.

Вялікіх правалаў у рабоце сялян і гандлі, паводле ацэнкі Сяргея Лінга, няма. Аднак кіраўнік урада пры наведванні калгаса «Беларусь» крытыкаваў утрыманне малочнага статка ў гэтай гаспадарцы. Парушэнне тэхналагічнасці прывяло тут да нізкай таварнасці малака і да няправільнага ўтрымання маладняку. Такія рэчы недапушчальныя, адзначыў прэм'ер-міністр. У цэлым у Мінскай вобласці дзякуючы Мінгарвыканкаму знайшлі прымальнае рашэнне, як падтрымаць сельскіх таваравытворцаў. За кошт гарадскога бюджэту мэтанакіравана будзе выдзелены 50-мільярдны аванс для пастаўкі малочных прадуктаў сталіцы рэспублікі.

**БЕЛТА.**

## У Камітэце Дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь

У сувязі з даручэннем Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі 2 снежня 1998 года адбылося чарговае пасяджэнне калегіі Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь, на якім разгледжаны вынікі праверкі арганізацыі работы па ацэнцы і рэалізацыі вернутай у даход дзяржавы маёмасці.

Калегія адзначыла нездавальняючы стан ацэнкі і рэалізацыі канфіскаванай маёмасці і выканання адпаведнага распараджэння кіраўніка дзяржавы ад 4 чэрвеня 1998 года № 130рп.

Прычынамі недахопаў у рабоце з канфіскаванай маёмасцю з'явіліся фармалізм і валакіта ў дзейнасці камісій па арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, вернутай у даход дзяржавы, пры Мінскім гарвыканкаме і адміністрацыі Фрунзенскага і Першамайскага раёнаў г. Мінска, Мінскім райвыканкаме, Гродзенскім абласным і гарадскім выканкамах, Бераставіцкім і Воранаўскім райвыканкамах, работа якіх па разглядаемаму пытанню прызнана нездавальняючай.

Адмоўна адбіваецца на становішчы спраў і недастатковая прапрацоўка Дзяржаўным мытным камітэтам нарматыўных дакументаў па пытаннях захоўвання і складзіравання затрыманай маёмасці да яе перадачы на рэалізацыю.

Калегія даручыла Мінгарвыканкаму, Мінскаму і Гродзенскаму аблвыканкамам разгледзець пытанне аб адказнасці старшынь камісій па арганізацыі ўліку, захоўвання і рэалізацыі вернутай у даход дзяржавы маёмасці і патрабавала ў месячны тэрмін ажыццявіць неабходныя мерапрыемствы па поўнай ацэнцы вернутай у даход дзяржавы маёмасці, якая знаходзіцца ў камісіях, і перадачы яе на рэалізацыю.

Дзяржаўнаму мытнаму камітэту Рэспублікі Беларусь даручана перагледзець існуючае Палажэнне аб парадку ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі рэчаў, затрыманых мытнымі органамі, канфіскаваных па справах аб адміністрацыйных мытных парушэннях.

Мінскай рэгіянальнай мытні даручана спагнаць з вінаватых асоб кошт выяўленай пры праверцы нехапаючай маёмасці.

Вызначаны і іншыя канкрэтныя меры па наводзенню парадку ў пытаннях арганізацыі ўліку, захоўвання, ацэнкі і рэалізацыі маёмасці, вернутай у даход дзяржавы.

**Аддзел сацыяльна-эканамічнага аналізу Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь.**

### АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА:
## «ТОЛЬКІ ТОЙ, ХТО НЕ ЖАДАЕ ДАБРА СВАЙМУ НАРОДУ, МОЖА СПЕКУЛЯВАЦЬ НА ЧАСОВЫХ ЦЯЖКАСЦЯХ»

На адной з нядаўніх нарад прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка паведаміў, што збіраецца наведаць Мінскі трактарны завод. У яго ўзнікла неабходнасць даведацца, як працуе адно з буйнейшых прадпрыемстваў краіны і што думаюць яго працаўнікі аб ім як кіраўніку дзяржавы, аб палітыцы, якую ён праводзіць, і становішчы ў грамадстве і жыцці наогул.

І вось гэты візіт адбыўся. 1 снежня апоўдні прэзідэнцкі картэж спыніўся ля галоўнай прахадной завода. Тут высокага госця, а таксама першага намесніка кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта Уладзіміра Русакевіча, намесніка прэм'ер-міністра Валерыя Кокарава, старшыню Мінгарвыканкама Уладзіміра Ярмошына, міністраў, іншых афіцыйных асоб, якія яго суправаджалі, гасцінна сустракаў генеральны дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў.

Аляксандр Лукашэнка азнаёміўся з шэрагам заводскіх аб'ектаў вытворчага і сацыяльнага прызначэння. У памяшканні корпуса зборкі трактароў адбылася яго сустрэча і больш чым двухгадзінная размова з рабочымі, інжынерна-тэхнічнымі работнікамі, прадстаўнікамі прафсаюзаў, у тым ліку і тых, што называюць сябе свабоднымі.

Сустрэчу адкрыў генеральны дырэктар МТЗ Міхаіл Лявонаў. Ён расказаў аб поспехах прадпрыемства і аб тых цяжкасцях, якія перажывае цяпер гэты гігант айчыннай прамысловасці. Паводле слоў кіраўніка, прадпрыемства ў асноўным паспяхова справілася з вытворчай праграмай дзесяці месяцаў гэтага года. Нягледзячы на аб'ектыўныя цяжкасці, калектыў завода імкнецца да нарошчвання аб'ёмаў вытворчасці і паляпшэння якасці сваёй прадукцыі. Гэта напрамую адбіваецца на вырашэнні многіх пытанняў сацыяльна-бытавога плана. Пры падтрымцы дзяржавы завадчане будуюць 1000 кватэр. У кастрычніку сярэднямесячная заработная плата па аб'яднанню склала 7 мільёнаў 900 тысяч рублёў. Гэтыя і іншыя факты гавораць аб тым, што ў цэлым прадпрыемства развіваецца стабільна і ўпэўнена.

Разам з тым, адзначыў Міхаіл Лявонаў, не абыходзіцца і без праблем. Трактарабудаўнікам неабходна больш упэўнена нарошчваць свой экспартны патэнцыял, больш актыўна асвойваць новыя рынкі збыту прадукцыі, больш настойліва працаваць над паляпшэннем яе якасці, павышэннем канкурэнтаздольнасці.

У ходзе сустрэчы прэзідэнта краіны з прадстаўнікамі працоўнага калектыву ад імя завадчан выступілі рабочы Валянцін Мінько, старшыня прафкама кавальскага цэха Яўген Пашэрснік, ветэраны прадпрыемства. Усе яны гаварылі аб сваіх асабістых і грамадскіх праблемах, якія хацелі б вырашыць пры падтрымцы кіраўніка дзяржавы.

У сваю чаргу Аляксандр Лукашэнка ахарактарызаваў сітуацыю ў краіне, адказаў на зададзеныя пытанні. Беларусам пакуль што цяжка прабіцца на заходні рынак, адзначыў ён. Таму прыярытэтам для нас на бліжэйшы час павінен стаць перш за ўсё расійскі напрамак з адначасовым асваеннем заходніх каналаў збыту прадукцыі. Трактарабудаўнікам, падкрэсліў прэзідэнт, неабходна больш настойліва працаваць над якасцю сваёй прадукцыі. Марка МТЗ павінна быць канкурэнтаздольнай на ўсіх кантынентах.

Кіраўнік дзяржавы паведаміў, што ён і ўрад падумаюць аб тым, як падтрымаць завод і яго калектыў. Аляксандр Лукашэнка згодны з прапановай Міхаіла Лявонава аб перадачы прадпрыемству трох-чатырох свінагадоўчых комплексаў. Ён таксама падкрэсліў, што ў гэтай няпростай жыццёвай сітуацыі ні ў якім разе нельга дапусціць звальнення рабочых.

Знаходзячыся на трактарным заводзе, Аляксандр Лукашэнка зрабіў заяву наконт плануемых свабоднымі прафсаюзамі масавых выступленняў працоўных калектываў. Прэзідэнт сказаў, што толькі той, хто не жадае дабра свайму народу, можа спекуляваць на часовых цяжкасцях і ўсяляк падаграваць і без таго няпростую абстаноўку. У той жа час, падкрэсліў кіраўнік дзяржавы, ён не прымае націску і дыктату з чыйго б там ні было боку. Таму тым, хто спрабуе разгайдаць лодку і атрымаць пры гэтым жаданыя палітычныя дывідэнды, варта было б падумаць аб выніках, перш чым гэта рабіць, лічыць Аляксандр Лукашэнка.

Міхаіл Лявонаў падзякаваў кіраўніку дзяржавы за ўвагу, якую ён аказвае заводу і яго калектыву, і запэўніў, што прадпрыемства будзе дастойна прадстаўляць марку МТЗ.

**Алег ШВЕДАЎ, БЕЛТА.**

### ДЭКРЭТ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 21
## АБ МЕРАХ ПА ЎПАРАДКАВАННЮ ІГРАЛЬНАГА БІЗНЕСУ Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ

У мэтах упарадкавання ігральнага бізнесу ў Рэспубліцы Беларусь і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь *пастанаўляю:*

1. Устанавіць, што:

1.1. юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы, маюць права займацца ігральным бізнесам толькі на аснове спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), выдадзенага ім у адпаведнасці з заканадаўствам;

1.2. парадак ажыццяўлення ігральнага бізнесу вызначаецца Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь;

1.3. выкарыстоўваемыя ў гэтым Дэкрэце паняцці азначаюць наступнае:

ігральны бізнес — дзейнасць, накіраваная на атрыманне ігральнай установай даходу ў выглядзе выйгрышу, платы за арганізацыю, правядзенне або ўдзел у азартных гульнях, заклад, арганізацыі таталізатара;

ігральная ўстанова — месца (казіно, таталізатар, букмекерская кантора, зала ігравых аўтаматаў, іншыя ігральныя месцы), дзе праводзяцца азартныя гульні і (або) прымаюцца стаўкі на азартныя гульні, заклад;

азартная гульня — заснаванае на рызыцы і заключанае паміж дзвюма або некалькімі асобамі, як фізічнымі, так і юрыдычнымі, па правілах, устаноўленых ігральнай установай, пагадненне аб выйгрышы, зыход якога залежыць ад абставінаў, на наступленне якіх бакі маюць магчымасць аказваць уздзеянне;

заклад — заснаванае на рызыцы і заключанае паміж дзвюма або некалькімі асобамі, як фізічнымі, так і юрыдычнымі, пагадненне аб выйгрышы, зыход якога залежыць ад абставінаў, адносна якіх невядома, наступяць яны або не;

таталізатар — ігральная ўстанова, дзе праводзяцца азартныя гульні, у якіх удзельнікі робяць папярэдні прагноз (ідуць у заклад) на магчымы варыянт ігравой, спартыўнай або іншай сацыяльна значнай сітуацыі, дзе выйгрыш залежыць ад частковага або поўнага супадзення прагнозу з наступіўшымі рэальнымі, дакументальна пацверджанымі фактамі;

ігравы стол — спецыяльна абсталяваае месца, прызначанае для правядзення азартных гульняў з любым відам выйгрышу, у якіх ігральная ўстанова праз сваіх прадстаўнікоў удзельнічае як бок або як арганізатар і (або) назіральнік;

ігравы аўтамат — спецыяльнае абсталяванне (механічнае, электрычнае, электроннае, іншае тэхнічнае абсталяванне), якое ўстаноўлена ў ігральнай установе і выкарыстоўваецца для правядзення азартных гульняў з грашовым (матэрыяльным) выйгрышам без непасрэднага ўдзелу ў названых гульнях прадстаўнікоў ігральнай установы;

ігравое абсталяванне — ігравы стол, ігравы аўтамат, іншае абсталяванне, якое прымяняецца для арганізацыі і правядзення азартнай гульні;

касы таталізатара, букмекерскай канторы — спецыяльна абсталяванае месца, дзе ўлічваецца агульная сума ставак і вызначаецца сума выйгрышу, якая падлягае выплаце ў адпаведнасці з заключаным закладам;

1.4. ігравое абсталяванне, якое вырабляецца ў Рэспубліцы Беларусь або ўвозіцца на тэрыторыю Рэспублікі Беларусь, падлягае абавязковай сертыфікацыі і тэхнічнаму абслугоўванню ў парадку, устаноўленым Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Выкарыстанне ігравога абсталявання, якое не мае сертыфіката і дагавора на яго тэхнічнае абслугоўванне, забараняецца.

2. Устанавіць падатак на ігральны бізнес (далей — падатак).

Плацельшчыкамі падатку з'яўляюцца юрыдычныя асобы і прадпрымальнікі, што ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы (далей — плацельшчыкі), якія займаюцца ігральным бізнесам.

Плацельшчыкі ў частцы даходаў, атрыманых ад названай дзейнасці, не выплачваюць падатак на прыбытак, падатак на дабаўленую вартасць (за выключэннем падатку на дабаўленую вартасць, які бярэцца пры ўвозе тавараў на мытную тэрыторыю Рэспублікі Беларусь), адлічэнні сродкаў карыстальнікамі аўтамабільных дарог, адлічэнні ў рэспубліканскі фонд падтрымкі вытворцаў сельскагаспадарчай прадукцыі і прадуктаў харчавання, адлічэнні ў мэтавыя бюджэтныя фонды мясцовых Саветаў дэпутатаў для фінансавання расходаў на ўтрыманне ведамаснага жыллёвага фонду, збор за паслугі казіно, падаходны падатак (для прадпрымальнікаў, якія ажыццяўляюць сваю дзейнасць без утварэння юрыдычнай асобы).

Плацельшчыкі абавязаны весці раздзельны ўлік даходаў і расходаў па кожнаму з відаў аб'ектаў падаткаабкладання.

Пры ажыццяўленні іншых відаў дзейнасці, якія не адносяцца да ігральнага бізнесу, плацельшчыкі абавязаны весці раздзельны ўлік даходаў і расходаў і выплачваць па гэтых відах дзейнасці падаткі, зборы і іншыя абавязковыя плацяжы ў адпаведнасці з заканадаўствам.

Аб'ектамі падаткаабкладання з'яўляюцца: ігравыя сталы; ігравыя аўтаматы; касы таталізатараў; касы букмекерскіх кантор.

Агульная колькасць аб'ектаў падаткаабкладання кожнага віду падлягае абавязковай рэгістрацыі па пісьмовай заяве плацельшчыка ў падатковых органах да моманту іх устаноўкі (выкарыстання) з абавязковай выдачай пасведчання аб рэгістрацыі.

Рэгістрацыя ў падатковых органах аб'ектаў падаткаабкладання праводзіцца толькі пры наяўнасці ў плацельшчыкаў спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі) на займанне ігральным бізнесам, а таксама сертыфікатаў і дагавораў на тэхнічнае абслугоўванне названых аб'ектаў.

Натарыяльна засведчаная копія пасведчання аб рэгістрацыі агульнай колькасці аб'ектаў падаткаабкладання кожнага віду павінна захоўвацца па месцы знаходжання названых аб'ектаў.

Змяненне ў ігральнай установе агульнай колькасці аб'ектаў падаткаабкладання кожнага віду дазваляецца толькі пасля рэгістрацыі аб'ектаў ігральнага бізнесу ў падатковых органах. Падатковыя органы на працягу 5 рабочых дзён з даты атрымання пісьмовай заявы плацельшчыка аб змяненні агульнай колькасці аб'ектаў падаткаабкладання кожнага віду абавязаны выдаць пасведчанне аб рэгістрацыі, забраўшы раней выдадзенае.

Устаноўка (выкарыстанне) у ігральнай установе аб'ектаў падаткаабкладання, не зарэгістраваных у падатковых органах, забараняецца. Парушэнне гэтага патрабавання з'яўляецца падставай для анулявання ліцэнзіі на займанне ігральным бізнесам.

Стаўкі падатку ў фіксаваным памеры, кратным мінімальнай заработнай плаце, устанаўліваюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь па ўзгадненню з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь.

Парадак вылічэння і тэрміны выплаты падатку вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь.

Адказнасць за правільнасць вылічэння, своечасовасць і паўнату выплаты падатку ўстанаўліваецца ў адпаведнасці з Законам Рэспублікі Беларусь «Аб падатках і зборах, якія бяруцца ў бюджэт Рэспублікі Беларусь».

3. Спецыяльныя дазволы (ліцэнзіі) на займанне ігральным бізнесам выдаюцца Міністэрствам спорту і турызму.

4. Устанавіць, што арганізацыя і правядзенне забароненых азартных гульняў, займанне ігральным бізнесам без спецыяльнага дазволу (ліцэнзіі), а таксама парушэнне ўстаноўленага парадку сертыфікацыі, тэхнічнага абслугоўвання ігравога абсталявання, рэгістрацыя аб'ектаў падаткаабкладання ў падатковых органах, непрад'яўленне пасведчання (натарыяльна засведчанай копіі пасведчання) аб рэгістрацыі аб'ектаў падаткаабкладання юрыдычнымі і фізічнымі асобамі — цягне накладанне штрафу ў памеры ад 20 да 500 мінімальных заработных плат з канфіскацыяй ігравога абсталявання, а таксама грошай, рэчаў і іншых каштоўнасцяў, якія з'яўляюцца стаўкай у гульні.

Пратаколы аб адміністрацыйных правапарушэннях, прадугледжаных гэтым пунктам, маюць права складаць упаўнаважаныя на тое службовыя асобы органаў Камітэта дзяржаўнага кантролю, унутраных спраў, фінансавых расследаванняў, падатковых органаў. Справы аб такіх правапарушэннях разглядаюцца ва ўстаноўленым парадку судамі.

5. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь у двухмесячны тэрмін:

5.1. распрацаваць і прадставіць для зацвярджэння Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь парадак ажыццяўлення ігральнага бізнесу, а таксама пералік азартных гульняў, арганізацыя і правядзенне якіх на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь забаронена;

5.2. зацвердзіць Палажэнне аб ліцэнзаванні ігральнага бізнесу;

5.3. вызначыць:

парадак сертыфікацыі і тэхнічнага абслугоўвання ігральнага абсталявання;

парадак вылічэння, тэрміны выплаты, стаўкі падатку на ігральны бізнес, прадугледзеўшы прымяненне каэфіцыентаў, якія павышаюцца, да ставак падатку ў залежнасці ад аб'ёму абароту ігральных устаноў;

парадак размеркавання сум падатку на ігральны бізнес паміж рэспубліканскім і мясцовымі бюджэтамі;

5.4. унесці прапановы Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь аб прывядзенні заканадаўства ў адпаведнасць з гэтым Дэкрэтам;

5.5. прыняць іншыя меры, накіраваныя на рэалізацыю палажэнняў гэтага Дэкрэта.

6. Абзац трэці пункта 2 Дэкрэта Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 12 мая 1998 г. № 6 «Аб некаторых мерах па ўпарадкаванню латарэйнай дзейнасці» (Збор дэкрэтаў, указаў Прэзідэнта і пастаноў Урада Рэспублікі Беларусь, 1998 г., № 14, арт.347) прызнаць страціўшым сілу.

7. Кантроль за выкананнем гэтага Дэкрэта ўскласці на Дзяржаўны сакратарыят Савета бяспекі Рэспублікі Беларусь.

8. Гэты Дэкрэт уводзіцца ў дзеянне з 1 студзеня 1999 г., з'яўляецца часовым і ў адпаведнасці з часткай трэцяй артыкула 101 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь прадстаўляецца на разгляд Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь А. ЛУКАШЭНКА.**

*1 снежня 1998 г., г.Мінск.*

## Вячаслаў БУРСКІ, генеральны дырэктар БелОМА:

# «Мы разумеем, ш
# гэта захаванне і развіццё высок
# асвойвацца і вырабляцца «мірная»

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

*Наша задача не загубіць яго, а на поўную магутнасць выкарыстаць. І сёння БелОМА застаецца буйным шматпрофільным аб'яднаннем, якое спецыялізуецца ў галіне лазерных, оптыка-электронных і оптыка-механічных прыбораў і сістэм, якія перасоўваюцца па зямлі, лятаюць у космасе, плаваюць па вадзе і пад вадой. Яны дапамагаюць ваеннаму абараняць радзіму, урачу — лячыць людзей, міліцыянеру — лавіць злачынцаў... Дзякуючы сваім вытворча-тэхналагічным магчымасцям і інфраструктуры аб'яднанне сёння можа распрацоўваць і вырабляць складаныя тэхнічныя комплексы, якія надзейна працуюць практычна ў любых умовах.*

Улічваючы тое, што да гэтага часу жыхары Беларусі мала ведаюць пра вытворчы накірунак дзейнасці БелОМА, я папрасіў Вячаслава Аляксандравіча больш падрабязна расказаць пра гэта.

*— Да гэтага часу мы займаемся вытворчасцю фотаздымачнай апаратуры для шырокага кола спажыўцоў, — паведаміў ён. — Вырабляем таксама фотаапаратуру для тапаграфічных здымкаў Зямлі з космасу, многазанальную фотаздымачную касмічную апаратуру, абсталяванне для расшыфроўкі касмічных здымкаў, з дапамогай якіх можна стварыць карту мясцовасці, зямельны кадастр, даследаваць прыродныя рэсурсы і экалагічны стан у любым пункце планеты. Дадам яшчэ, што з дапамогай нашых прыбораў можна вылічыць дакладныя каардынаты лятаючага аб'екта (самалёта, ракеты), беспамылкова трапіць у цэль снарадам ці ракетай, выпушчанай танкам, і разам з тым дапамагчы захаваць свежымі агародніну і садавіну ў камерах,ператварыць яблыкі ў сок, малако — у вяршкі і масла... Як бачна, сфера нашых інтарэсаў вельмі шырокая, шматпланавая. Усё гэта робіцца з адной мэтай — максімальна выкарыстаць тэхналагічны патэнцыял, вызвалены ў ходзе канверсіі. Дарэчы, вы заўважылі, што цяпер мы выпускаем шмат «мірнай» прадукцыі, але гэта не самамэта, нельга нам збіцца на шлях «прымітывізацыі» тавараў. У высокаразвітых краінах выпуск абароннай прадукцыі — гэта захаванне і развіццё высокіх тэхналогій, на базе якіх асвойваецца і вырабляецца тая ж «мірная» прадукцыя, а ў нас да таго ж гэта і захаванне ўсяго нашага інтэлектуальнага патэнцыялу, гэта і падтрымка балансу пры адсутнасці інвестыцый. Прычым, мы вырабляем навукаёмістую прадукцыю вагой ад некалькіх грамаў да некалькіх тон. Для ілюстрацыі выгаднасці і важнасці нашай вытворчасці я часта прыводжу такія факты. Напрыклад, кошт аднаго кілаграма абароннай прадукцыі ў асобных выпадках перавышае 1000 амерыканскіх долараў, у той час як кошт аднаго кілаграма «мірнай» прадукцыі знаходзіцца ў межах 10—15 долараў. А вось пастаўляемы намі на экспарт прыбор-прыцэл для кіравання агнём баявых машын пяхоты прыносіць краіне прыкладна ў 4 разы больш валюты, чым адзін трактар, хоць размясціць яго можна на сядзенні таго ж трактара, ды яшчэ і для трактарыста месца застанецца.*

### «Людзі вырашаюць усё, але чалавечы фактар таксама можа быць вычарпаны...»

Сказана, мабыць, вельмі катэгарычна, але да такой высновы таксама нескладана было прыйсці пасля знаёмства з калектывам дзяржаўнага прадпрыемства «ЛЭМТ». Заснаваны ў 1992 годзе ў выніку рэарганізацыі аднаго з падраздзяленняў БелОМА навукова-інжынерны цэнтр «Лазеры ў Экалогіі, Медыцыне і Тэхналогіі» — гэта адно з тых дванаццаці прадпрыемстваў, якое, застаючыся ў саставе аб'яднання, атрымала самастойнасць і не толькі выжыла, але і дабілася ўстойлівай дадатковай дынамікі развіцця. За гады сваёй «свабоды» колькасць работнікаў «ЛЭМТа», якія распрацоўваюць і ствараюць новую тэхніку, вырасла больш чым у чатыры разы. Пры гэтым «ЛЭМТ» паламала прывычную схему запуску навінак у вытворчасць: канструктарскае бюро — эксперыментальны цэх — серыйныя цэхі. Тут у адным творчым калектыве сканцэнтраваны навуковыя і інжынерна-тэхнічныя кадры, ёсць эксперыментальныя і серыйныя цэхі. Такім чынам быў ліквідаваны галоўны недахоп на шляху абнаўлення прадукцыі — разарванасць працэсу распрацоўкі, укаранення і рэалізацыі прадукцыі. Такі замкнёны вытворчы цыкл — ад маркетынгу да рэалізацыі — ставіць шлагбаум для масавай вытворчасці няўдалых вырабаў.

Дзесяткі вырабаў, распрацаваных дзяржаўным прадпрыемствам «ЛЭМТ», выпускаюцца на іншых заводах «БелОМА». Прадукцыя прадпрыемства выкарыстоўваецца больш чым у 30 краінах свету. «ЛЭМТ» неаднаразова выходзіў пераможцам міжнародных тэндэраў на распрацоўку і пастаўку прадукцыі. Адным словам, «ЛЭМТ» не толькі выжыў, але і мае неблагія перспектывы для далейшага развіцця. Гэта стала магчымым у многім дзякуючы таму, што тут змаглі захаваць «мазгавы цэнтр», вярнуць на прадпрыемства лепшыя кадры. Тут добра разумеюць, што канкурэнцыя на інфармацыйным рынку даволі жорсткая і выжывае ў гэтай барацьбе самы хуткі, хто здолеў найбольш эфектыўна выкарыстаць ужо напрацаванае, хто змог улавіць тэндэнцыі і перспектывы развіцця той ці іншай галіны эканомікі.



*— Каб паспяхова канкурыраваць на замежных рынках, трэба дасканала вывучаць іх, добра ведаць патрэбы заказчыкаў, магчымасці патэнцыяльных канкурэнтаў,* — **гаворыць дырэктар «ЛЭМТа», доктар фізіка-матэматычных навук, прафесар Аляксей Шкадарэвіч.** — *Маркетынг — гэта аснова таго, што не будуць марна выкарыстоўвацца сродкі прадпрыемства, не будуць упустую сушыцца мазгі распрацоўшчыкаў, вучоных. З першых дзён работы мы працуем пад дэвізам «З Ценю да Святла». Гэтым мы падкрэслілі імкненне выкарыстоўваць ваенныя тэхналогіі для вытворчасці «мірнай» прадукцыі. Сёння «БелОМА» выходзіць на сусветныя рынкі з адной мэтай — стаць вядомым вытворцам і надзейным пастаўшчыком складанай высакаякаснай прадукцыі.*

На «БелОМА», калі пачалася канверсія, не пераарыентаваліся на нізкую тэхналагічную прадукцыю, захавалі, зберaглі і развілі напрацаваны дзесяцігоддзямі вопыт па выпуску аптычных прыбораў. Але... Многія вырабы аказаліся незапатрабаванымі айчыннымі спажыўцамі, якія да гэтага часу закупляюць шмат гатовай прадукцыі за мяжой, хоць яна маецца і ў нас. Павінна быць інакш — трэба ўдасканальваць свае вырабы, для чаго ўкладваць інвестыцыі ў сваю вытворчасць, а не падтрымліваць замежную, вывозячы туды вялікія валютныя сродкі.

*— Гэта сур'ёзная праблема,* — **канстатуе Аляксей Пятровіч.** — *У свой час і наша прадпрыемства стваралася пад вытворчасць медыцынскай тэхнікі. Гэта было разумна: абсталяванне БелОМА дазваляла распрацоўваць і вырабляць канкурэнтаздольную прадукцыю для медыцынскіх установаў. Але гэты накірунак тады амаль праваліўся. Па некалькіх прычынах. Па-першае, гэта вельмі складаная тэхніка, вытворчасць якой патрабуе сапраўды вялікіх інвестыцый. Па-другое, тады мы сустрэлі незразумелае катэгарычнае процідзеянне чыноўнікаў Міністэрства аховы здароўя, якія рабілі стаўку на закупку замежнага абсталявання і рабілі ўсё магчымае, каб заблакіраваць нашу работу. Шчасце, што яны ўжо там не працуюць. Праўда, мы таксама шукалі спонсараў і знайшлі іх у асобе турэцкай фірмы, якая валодае шматмільённымі абаротамі, а таму праінвесціравала медыцынскія распрацоўкі амаль на паўмільёна долараў. За паўтара года мы дасягнулі добрых вынікаў, распрацаваную апаратуру нам не сорамна паказваць замежным спажыўцам.*

Цяпер многія вырабы гэтага накірунку праходзяць клінічныя выпрабаванні і выкарыстоўваюцца ў медыцынскіх установах Мінска, а таксама пастаўлены для выпрабаванняў у Расію, ва Украіну, Швецыю, Чэхію, Германію. Міністэрства аховы здароўя адобрыла выкарыстанне ў клінічнай практыцы прыбора лазернай акупунктуры, лазернай тэрапеўтычнай устаноўкі, комплексу экстракарпаральнай дэтаксікацыі, прыбора для бесконтактнага рассячэння біятканкі. Завершаны клінічныя выпрабаванні лазернага афтальмаперфаратара, лазернага літатрыптэра, двуххвалевай хірургічнай устаноўкі. Праходзяць клінічныя выпрабаванні ўстройства лазернай ангіапластыкі, апарат для фотадынамічнай тэрапіі, апарат электра- і фонафарэзу і інш.

Дзякуючы распрацоўцы і выпуску абароннай прадукцыі да гэтага часу захоўваюцца і развіваюцца высокія тэхналогіі, на базе якіх і асвойваецца «мірная» прадукцыя. Тут аднымі з першых у СНД наладзілі выпуск лазерных цэлеўказальнікаў. Сёння лазерныя прыцэлы пастаўляюцца больш чым у 20 краін свету. «БелОМА» з'яўляецца асноўным пастаўшчыком іх для вядучых зброевых заводаў Расіі. Лінейка прыцэлаў для стралковай і паляўнічай зброі падоўжана аптычнымі і каліматорнымі прыцэламі, якія адпавядаюць лепшым замежным аналагам. Прадпрыемства распрацавала серыю прыбораў начнога бачання на электроннааптычных пераўтваральніках першага і другога пакаленняў. Пералік лазерных тэхналагічных прыбораў уключае лазерныя ўзроўні, лазерныя модулі, трыангуляцыйныя вымяральнікі перамяшчэнняў, лазерныя дальнометры і інш.

Каліматорныя прыцэлы — гэта сучасныя, лёгкія, простыя ў эксплуатацыі ўстройствы, якія прызначаюцца для хуткай і дакладнай наводкі на цэль любой стралковай зброі, маючай планку для іх замацавання. Прыцэл уяўляе сабой аптычны візір з аднакратным павелічэннем, у якім фарміруецца дакладная, пастаянна бачная чырвоная кропка — прыцэльная марка. Для стральбы яе трэба сумясціць з цэллю без рупнага пазіцыравання прыбора адносна вока стралка.

З дапамогай каліматорных прыцэлаў лёгка навучаць прыцэльнай стральбе. Яны павышаюць эфектыўнасць яе ў 1,5 раза. Дарэчы, пры кошце прыцэлу ў 150 долараў на навучанні аднаго салдата стральбе эканоміцца ў сярэднім больш як 220 долараў.

Шкада, што яны пакуль не знаходзяць прымянення ў краіне, нашы сілавыя ведамствы не спяшаюцца набыць іх. Хоць навейшыя прыцэлы для стралковай зброі і гранатамётаў «БелОМА», выйграўшы міжнародны конкурс, пастаўляе ў шведскую армію. За мяжу пастаўляюцца таксама шырокавугольныя прыцэлы з полем зроку 12 замест 4 градусаў, лазерныя цэлеўказальнікі, якія дазваляюць хутка весці прыцэльную стральбу з любога становішча зброі.

Цяжкае фінансавае становішча ў прамысловасці і будаўніцтве стрымлівае таксама прымяненне аптычных прыбораў для будаўніцтва, мантажу і тэхналагічнага кантролю, у той жа час як за мяжой рынак такога прагрэсіўнага абсталявання вымяраецца сотнямі мільёнаў долараў. Гэты накірунак не вельмі развіты на «БелОМА», але ён перспектыўны, таму тут яму — асаблівая сёння ўвага.

На «БелОМА» шукаюць розныя шляхі, каб загрузіць высокатэхналагічнае абсталяванне аб'яднання. Змаглі «запусціць» амаль разбураны цэх, дзе наладзілі вытворчасць складаных аптычных аб'ектываў і акуляраў для розных прыбораў. Яны цяпер шырока выкарыстоўваюцца ў Расіі, ЗША, Швецыі, Германіі, Англіі, Ізраілі. Не забываюць і пра тавары шырокага ўжытку, якія традыцыйна вырабляліся тут — мікраскопы, лупы, тэлевізійныя і дзвярныя вочкі, дэтэктары сапраўднасці валют, лазерныя ўказкі.

«БелОМА» сёння скіравана на замежныя рынкі. Гэта зразумела і апраўдана: куды ж дзецца, калі высокі патэнцыял і магчымасці высокакваліфікаваных спецыялістаў не выкарыстоўваюцца, калі без дапамогі дзяржавы, не ў прыклад іншым прадпрыемствам, прыходзіцца выкарасквацца з крызісу, самім зарабляць на хлеб. Трымаюцца тут у асноўным за кошт знешніх заказаў. Спецыялісты «БелОМА» шмат ездзяць, пераконваюць замежных спажыўцоў прадукцыі ў тым, што ў нас усё нармальна і няма ніякай рызыкі для наладжвання кантактаў. Яны вучацца ў замежных партнёраў, імкнуцца знайсці хоць маленькую, але зачэпку, каб потым развіць супрацоўніцтва і замацавацца на замежным рынку. Сёння ў «БелОМА» шмат заказаў з дзесяткаў краін, але выканаць іх немагчыма з-за фінансавых праблем. На прадпрыемстве адсутнічаюць свабодныя сродкі для абнаўлення вытворчасці, а без гэтага, вядома, хутка цяжка будзе вырабляць канкурэнтаздольную прадукцыю.

*— Тэхналогія, як вядома, вызначае ўзровень і магчымасці прадпрыемства, без абнаўлення сродкаў вытворчасці нельга канкурыраваць на міжнародным рынку,* — **гаворыць кандыдат тэхнічных навук, галоўны тэхнолаг «БелОМА» Леанід Санковіч.** — *У даперабудовачны перыяд на нашым прадпрыемстве штогод абнаўлялася не менш як 10 працэнтаў абсталявання, прычым набывалася лепшае абсталяванне айчынных заводаў і вядучых замежных фірмаў. Да канца васьмідзесятых гадоў у нас былі створаны тэхналагічныя школы па ўсіх напрамках. Спецыялісты з вопытам работы на БелОМА высока каціраваліся на прадпрыемствах Мінска. І да сённяшняга дня нам удалося захаваць даволі высокі ўзровень па асноўных, вызначальных тэхналагічных межах, што дазваляе вырабляць практычна ўсю наменклатуру аптычных дэталяў і працаваць па заказах многіх замежных фірмаў.*

*Нарыхтоўчая вытворчасць, напрыклад, аснашчана абсталяваннем фірмаў «Бюлер» (Швейцарыя), «Італпрэс» (Італія), тэрмапластаўтаматы прадстаўлены фірмамі «Энгель», «Арбург», «Ідра», «Куасі» і інш. Нават у цяперашніх цяжкіх умовах мы змаглі набыць для інструментальнага цэха дадаткова да двух электраэразійных станкоў швейцарскі станок фірмы «Ажы» за 250 тыс. долараў. У аб'яднанні 2690 адзінак металаапрацоўчага абсталявання, з якіх 460 станкоў з ЛПК (128 апрацоўчых цэнтраў), 540 станкоў-аўтаматаў і паўаўтаматаў. Мы можам вырабляць, напрыклад, аб'ектывы з вагавымі параметрамі ад 1 грама да некалькіх сотняў кілаграмаў, а таксама датчыкаў «Вугал-код» з дакладнасцю вымярэння адна вуглавая секунда. Мы працуем па тых напрамках, у якіх лічым сябе спецыялістамі высокага класа, але па эканамічных меркаваннях мы ліквідавалі цэх мікраэлектронікі і ўчастак вырабу друкаваных плат, заказы на якія размяшчаем на спецыялізаваных прадпрыемствах рэспублікі.*



*Наша супрацоўніцтва з замежнымі фірмамі накіравана не толькі на выкананне заказаў, стварэнне сумесных прадпрыемстваў, але і на пераймання і выкарыстанне прагрэсіўных тэхналогій. Найбольш плённым з'яўляецца супрацоўніцтва з германскай фірмай «Карл Цэйс». Дзякуючы інвестыцыям гэтай фірмы ў нас з'явілася кантрольна-вымяральная машына, з'явіліся ўчасткі апрацоўкі шклянымі шарыкамі і элаксіравання, нам была аказана падтрымка ў асваенні тэхналогіі афарбоўкі эмалямі дэталяў з атрыманнем гладкіх і структурных паверхняў. Запланавана дапамога спецыялістаў фірмы «Карл Цэйс» у асваенні новай наменклатуры аптычных дэталяў на нашым прадпрыемстве для экспартных паставак.*

*Дзякуючы Указу прэзідэнта па льготах для канверсійных прадпрыемстваў нашы магчымасці па набыццю новага абсталявання крыху палепшыліся. Аднак гэтага недастаткова. Правёўшы своеасаблівую тэхнічную інвентарызацыю, мы прыйшлі да вельмі трывожнай высновы: для таго, каб наша прадукцыя ў бліжэйшы час магла канкурыраваць па цэнаваму фактару на сусветным рынку, неабходна абнавіць каля 90 працэнтаў абсталявання, але, зыходзячы з тых даходаў, якія атрымлівае наша прадпрыемства, гэта магчыма зрабіць толькі на працягу 30 гадоў, прычым за такі тэрмін такое высокатэхналагічнае абсталяванне павінна абнавіцца некалькі разоў.*

*Мы прыкладаем вялікія намаганні па пошуку новых партнёраў у розных рэгіёнах для ўзаемавыгаднага супрацоўніцтва, актыўна працуем на вытворчасць імпартазамяшчальнай прадукцыі, якая выкарыстоўваецца на прадпрыемствах Беларусі. Напрыклад, вырабляем вузлы тармазной сістэмы для аўтамабіляў МАЗа. Прапрацоўваецца варыянт стварэння СП па іх вытворчасці з замежнай фірмай. Спадзяёмся, што праз яго пойдуць і інвестыцыі, і новыя тэхналогіі.*

*Практыка паказвае, што для таго, каб упісацца ў сістэму сусветнай эканомікі, важна аднолькава эфектыўна працаваць з рознымі рэгіёнамі: і на Усходзе, і на Захадзе. Мяркую, што на дзяржаўным узроўні павінна аказвацца больш адчувальная падтрымка тым прадпрыемствам, якія экспартуюць прадукцыю, а значыць, зарабляюць для дзяржавы валюту, ствараюць*



**Прыцэлы для стралковай зброі**

## ПАГРОЗА БРУШНОГА ТЫФУ Ў ЖЫРОВІЦАХ БЫЛА ПЕРАБОЛЬШАНА

У лістападзе ў многіх беларускіх СМІ прайшла інфармацыя аб эпідэміі брушнога тыфу ў Мінскай вышэйшай духоўнай праваслаўнай семінарыі, якая размяшчаецца побач з Жыровіцкім Свята-Успенскім манастыром. Зразумела, гэта навіна імгненна зменшыла колькасць жадаючых наведаць манастыр, бо, нягледзячы на той факт, што пра брушны тыф большасць з нас ведае толькі па чутках і нават не разумее розніцы паміж кішэчнай інфекцыяй і паветрана-кропельнай, нямногія пажадалі рызыкаваць і падвяргаць сваё здароўе пагрозе. У выніку панікі, узнятай журналістамі, у першую чаргу пацярпеў сам Жыровіцкі манастыр, які існуе за кошт ахвяраванняў паломнікаў і турыстаў.

Каб высветліць ступень рызыкі падхапіць брушны тыф у Жыровіцах, мы звярнуліся за тлумачэннямі да эпідэміёлагаў Гродзенскага абласнога і Рэспубліканскага цэнтраў гігіены і эпідэміялогіі. Іх меркаванні на гэты конт супадаюць: ніякай пагрозы не існуе. Сапраўды, у духоўнай семінарыі быў зарэгістраваны ачаг брушнога тыфу, у які аказаліся ўцягнутымі толькі чатыры семінарысты. Прычым тры з іх падхапілі інфекцыю ў Мінску, калі наведвалі бацьку аднаго з іх. Той заразіўся брушным тыфам праз малако ад жанчыны-вірусаносьбіта, а замкнуўся гэты ланцужок ужо ў семінарыі, дзе інфіцыраваны быў сусед па пакою захварэўшых семінарыстаў. У двух пацярпелых наяўнасць брушнога тыфу была бактэрыялагічна пацверджана, а двум другім быў пастаўлены клінічны дыягназ.

Па словах выконваючага абавязкі загадчыка эпідэміялагічнага аддзела Гродзенскага абласнога ЦГЭ Яўгена Ліхоты, на тэрыторыю манастыра нават не прыйшлося абмяжоўваць доступ наведвальнікаў, дастаткова аказалася абсервацыйнага рэжыму, гэта значыць абмежавання кантактаў семінарыстаў са знешнім светам. Але 17 лістапада ўсе захварэўшыя семінарысты ўжо вярнуліся з інфекцыйнага аддзялення ў навучальную ўстанову і жыццё тут пацякло ў ранейшым русле.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

*Сёння — Дзень інвалідаў Рэспублікі Беларусь*

## У ПАСТЦЫ КРЫЗІСУ

### АПЫНУЎСЯ АПОШНІМ ЧАСАМ БЕЛАРУСКІ ПРАТЭЗНА-АРТАПЕДЫЧНЫ АДНАЎЛЕНЧЫ ЦЭНТР

**У нечым гэту ўстанову можна назваць унікальнай. Яе «формула» простая: вытворчасць плюс медыцынская дапамога. У такім выглядзе Беларускі пратэзна-артапедычны аднаўленчы цэнтр існуе ўжо 10 гадоў — з таго моманту, як пры галоўным прадпрыемстве ВА «Пратэзіст» з'явіўся спецыялізаваны шпіталь.**

Сярэдняя працягласць стацыянарнага лячэння складае тут, як правіла, 23—24 дні. За гэты час хворы павінен атрымаць індывідуальны пратэз, стаць на ногі і пачаць хадзіць. Апошняе самае складанае. Бо, як перакананы супрацоўнікі цэнтра, навучыць карыстацца пратэзам нашмат складаней, чым навучыць хадзіць дзіця. Логіку зразумець няцяжка: усе пацыенты апроч фізічных недахопаў маюць псіхалагічныя траўмы. Гэтым тлумачыцца і тая акалічнасць, што ўсім стацыянарным хворым прапануецца прайсці пэўны курс аднаўленчага лячэння — у звычайную паліклініку пойдзе далёка не кожны.



Тым часам колькасць пацыентаў працягвае імкліва павялічвацца. Так, калі ў 1970 годзе на ўліку ў ВА «Пратэзіст» знаходзілася каля 35,5 тысячы чалавек, то сёння — ужо амаль удвая больш.

— Адназначна назваць прычыны гэтай тэндэнцыі складана, — распавядае галоўны ўрач, намеснік дырэктара Беларускага пратэзна-артапедычнага аднаўленчага цэнтра Вольга Логвінава. — Як быццам, можна спаслацца на тое, што значна пагоршылася экалогія і сацыяльная сітуацыя ў краіне. Але нельга абысці ўвагай і такі факт, што ў апошнія гады значна лепш пачала працаваць дыягностыка і, як вынік, удаецца «выявіць» усё больш і больш інвалідаў.

**— Вашы пацыенты — людзі з прыроджанымі паталогіямі і ахвяры траўмаў?**

— Як гэта ні сумна, але гэта далёка не галоўныя катэгорыі хворых. Калі ўзяць інвалідаў без ніжніх канечнасцяў, то амаль 70 працэнтаў з іх складаюць людзі, якім была зроблена ампутацыя па прычыне самых розных захворванняў сасудаў.

**— Дарэчы, ці даводзіцца адмаўляць людзям у дапамозе?**

— Спыніць пратэзаванне мы можам толькі ў адным выпадку — калі бачым, што з-за новай нагрузкі рэзка пагаршаецца агульны стан чалавека. Такім хворым можна прапанаваць хіба што крэсла-каляску.

80 ложкаў стацыянару і паліклініка на 300 наведвальнікаў у змену. Па вялікаму рахунку для Беларусі гэтага дастаткова, тым больш, што філіялы пратэзна-артапедычнага цэнтра існуюць таксама ў Віцебску, Магілёве, Гомелі, Гродне. Лічыцца, што іх агульная матэрыяльна-тэхнічная база дазваляе не толькі аказаць дапамогу ўсім інвалідам, але і поўнасцю забяспечыць пасцельнай бялізнай, абуткам, некаторымі відамі адзення дамы-інтэрнаты краіны. Але чэргі жадаючых тут працягваюць з'яўляцца з незайздроснай перыядычнасцю.

...Атрымалася так, што ў Беларусі ніколі не было ўласнай вытворчасці камплектуючых дэталяў і паўфабрыкатаў для пратэзаў. Спроба стварыць такую вытворчасць у краіне аказалася безвыніковай: ад несерыйных заказаў, якія, да таго ж, патрабуюць нятаннай аснасткі, прадпрыемствы адмовіліся. Безумоўна, у гэтых варунках штосьці ўдалося зрабіць непасрэдна намаганнямі цэнтра. Аднак большасць камплектуючых і паўфабрыкатаў па-ранейшаму даводзіцца набываць за мяжой — у Расіі, Германіі, краінах Прыбалтыкі, ва Украіне...

— Якраз тут на першы план выходзіць пытанне сродкаў, тлумачыць Вольга Логвінава. — З аднаго боку, ужо стала хранічнай праблема неплацяжоў за выраблены намі пратэзы. З іншага — усе больш складана канверсаваць валюту. Дзякуй Богу, што пакуль нас разумеюць тыя ж расіяне, якія калі-нікалі згаджаюцца пастаўляць камплектуючыя «ў доўг».

**— А далей?**

— Што будзе далей, сказаць немагчыма. Такі прыклад. З 1997 года, дзякуючы кансультацыям калег з Германіі, мы пачалі выкарыстоўваць для карэкцыі пазваночніка хворых на скаліёз вядомы метад французскага артапеда Жака Шыно. Карсеты Шыно былі зроблены для 50 дзяцей, з'явіліся першыя паспяховыя вынікі. Аднак не сакрэт, што карсеты трэба мяняць прынамсі двойчы ў год — да таго часу, пакуль не спыніцца рост арганізма. Не рабіць гэта — значыць толькі нашкодзіць дзіцяці. Між тым, для вырабу карсетаў Шыно ў нас няма патрэбнага поліэтылену Сімона. І, на жаль, прыклад з пленкай Сімона сёння далёка не адзіны...

**Сяргей ГРЫБ.**
**Фота Аляксандра ЗАХАРАВА.**

## Часопіс «Крыніца жыцця» — хрысціянскае выданне

На яго старонках: хрысціянства сёння, найноўшыя тэалагічныя працы, шлях чалавека да Бога, выхаванне дзяцей і моладзі, хрысціянскія каштоўнасці, карысныя парады, кансультацыі па духоўных пытаннях. Заснавальнік — Саюз ЕХБ. Выходзіць 1 раз у 2 месяцы на рускай мове з публікацыяй часткі матэрыялаў на беларускай. *Кошт на I паўгоддзе 1999 года 90 тыс. руб. Падпісны індэкс 74850.*

***Ісус сказаў:*** «Калі хто не народзіцца ад вады і Духа, не можа ўвайсці ў Царства Божае. Народжанае ад плоці ёсць плоць, а народжанае ад Духа ёсць дух» (Евангелле паводле Яна 3:5:6).

Многія глыбока рэлігійныя людзі рызыкуюць не трапіць у Царства Божае, пасля смерці яны трапяць у пекла. Чаму? Таму што яны духоўна мёртвыя, не народжаныя духоўна. Увойдуць у Царства Божае толькі народжаныя ад вады і Духа. Як нарадзіцца духоўна? Чалавеку трэба паверыць у тое, што Ісус Хрыстос памёр за грахі ўсіх людзей і ўваскрос для апраўдання людзей. Калі чалавек пакаецца і адчыніць сваё сэрца для Духа Святога, тады Дух Святы ўвойдзе ў ягонае сэрца і напоўніць яго. Гэта і ёсць духоўнае нараджэнне. Сапраўдны хрысціянін — гэта чалавек, у сэрцы якога жыве Дух Святы.

***Малітва.*** «Ойча Нябесны, прабач мне грахі, выратуй душу маю, прашу ў імя Ісуса Хрыста. Я адчыняю сваё сэрца і запрашаю Духа Святога ўвайсці туды. Прыйдзі да мяне, Божа, навучай і вядзі па жыццёвых шляхах. Амін».

Падрабязней пра гэта, а таксама пра іншыя духоўныя рэчы чытайце ў часопісе.

*Адрас для лістоў: Беларусь, 225860, г. Кобрын, а/с 10,*
*т. (01642) 2-90-60, факс 2-89-97.*
*E-mail: box@krinica.belpak.brest.by*

## На працэсе Старавойтава чытаецца абвінаваўчае заключэнне

**Як паведаміла карэспандэнту «Звязды» старшыня Кіраўскага раённага суда Надзея Чмара, судовае слуханне па крымінальнай справе Васіля Старавойтава, Аляксандра Яўстратава і Алега Шапавалава ідзе нармальным чынам.**


Фота БЕЛТА.

Працягваецца чытанне абвінаваўчага заключэння, і за першыя тры дні працэсу прачытана 200 старонак, а ўсяго абвінаваўчае заключэнне налічвае на тысячу з лішкам старонак.

Васіль Старавойтаў, па сцвярджэнню старшыні суда, адчувае сябе нармальна і пакуль не прасіў медыцынскай дапамогі. Урач увесь час знаходзіцца ў зале суда, праз кожную гадзіну аб'яўляецца перапынак у судовым пасяджэнні для адпачынку. Праўда, цяпер у зале суда, у адрозненне ад пачатку працэсу, няшмат публікі — толькі адзінкавыя прадстаўнікі прэсы і родныя падсудных.

Пакуль, па меркаванню Надзеі Чмара, ідзе найбольш лёгкая для падсудных частка працэсу — слуханне абвінаваўчага заключэння. Праз нейкі час пачнуцца допыты сведак: іх у спісе 457, і не выключана, што будуць заяўлены і дадатковыя сведкі.

Вельмі верагодна, што ў бліжэйшы час адвакат Васіля Старавойтава Вера Страмкоўская вернецца да хадайніцтва аб змяненні меры стрымання на падпіску аб нявыездзе для свайго падабароннага.

Вера Страмкоўская заявіла журналістам у першы дзень працэсу, пасля адхілення першага падобнага хадайніцтва, што будзе звяртацца да яго рэгулярна, калі будзе мець на гэта права.

**Ілона ІВАНОВА.**

*З юбілеем!*

Журналісту **Альберту Ігаравічу СТРАПЧАМУ** споўнілася 60 гадоў. «Звяздоўцы» шчыра віншуюць свайго калегу з гэтай нагоды і зычаць новых творчых поспехаў на ніве беларускай журналістыкі.

## У Магілёўскай вобласці за два дні было прададзена 200 тон солі

**Напрыканцы мінулага тыдня дэфіцытам нумар 1 у вобласці стала звычайная кухонная соль. Паводле даных упраўлення гандлю Магілёўскага аблвыканкама, яе продаж перавысіў сутачную норму, якая складае 4,5 тоны солі, прыкладна ў 22 разы! Гэтымі ж днямі ў спіс тавараў павышанага попыту трапілі і запалкі. Прычыну новага ажыятажу спецыялісты гандлю бачаць у тым, што, нягледзячы на ўсе прымаемыя меры па насычэнню спажывецкага рынку, насельніцтва ўсё ж такі апасаецца магчымага пагаршэння становішча і імкнецца сустрэць новыя цяжкасці ў «поўным узбраенні».**

Палепшылася сітуацыя з продажам малочнай прадукцыі — малако, кефір і смятану цяпер можна набыць амаль што свабодна. Але дасягнута гэта ў асноўным за кошт памяншэння тлустасці смятаны да 15 працэнтаў, малака — да 1,5 працэнта, кефіру — да 1 працэнта, а таксама за кошт скарачэння вытворчасці марожанага.

Начальнік абласнога ўпраўлення гандлю Міхаіл Цыкуноў запэўнівае, што ў бліжэйшыя дні будзе выпраўлена становішча з цукрам. У продаж паступіць 100 тон цукру, што, як мяркуецца, спыніць хвалю ажыятажнага попыту.

Наўрад ці ўдасца дабіцца падобнага з рэалізацыяй масла. Яго вытворчасць рэзка зменшылася: калі летась выраблялася 400 тон у месяц, то зараз — толькі 100 тон. Зразумела, што ёсць запасы масла, закладзеныя на зіму, але ва ўпраўленні гандлю аблвыканкама лічаць, што ўсё ж такіх аб'ёмаў недастаткова, каб забяспечыць свабодны продаж гэтага адносна таннага, а таму і вельмі папулярнага прадукту. Спецыялісты гандлю ў пачатку лістапада прапаноўвалі ўвесці талоны на продаж масла, бо нават рэалізацыя дэфіцытнага тавару ў другой палове дня наўрад ці дасць магчымасць рабочаму чалавеку набыць масла. Гэту прапанову кіраўніцтва вобласці не палічыла прымальнай, бо, па цвёрдаму меркаванню губернатара Аляксадра Кулічкова, «сёння не тыя часы, калі праз жорсткую талонную сістэму можна рэгуляваць спажывецкі рынак».

Гандаль Магілёўшчыны гэтымі днямі рыхтуецца да навагодніх святаў. Падлічана, што кандытарскіх вырабаў хопіць усім, пакуль толькі недастаткова фасаваных падарункаў. Адсутнасць у магазінах шампанскага айчыннай вытворчасці і шалёныя цэны на імпартныя газіраваныя віны хвалююць насельніцтва. Праўда, ва ўпраўленні гандлю паабяцалі, што напярэдадні Новага года на паліцах з'явіцца доўгачаканае шампанскае «Савецкае» па прымальнай цане: у Магілёўскай вобласці назапашана 137 тысяч бутэлек — амаль у два разы больш, чым летась.

**Ілона ІВАНОВА.**

## Беларускія вытворцы рыхтуюць падарункі...

**Застацца без падарункаў і бутэлькі шампанскага на святочным стале беларусам не пагражае. У гэтым журналістаў запэўнілі прадстаўнікі Міністэрства гандлю на прэс-канферэнцыі, прысвечанай праблеме падрыхтоўкі прадпрыемстваў гандлю да навагодніх святаў.**

Усяго ў перадсвяточныя дні ў гандаль плануецца паставіць 2 мільёны бутэлек шампанскага, з іх 1 мільён прызначаецца для гандлёвых арганізацый сталіцы. Сёння адпускная цана на гэту прадукцыю складае 205—210 тыс. рублёў за бутэльку, таму, можна меркаваць, што яно па-ранейшаму застанецца больш танным у параўнанні з экспартуемымі з-за мяжы газіраванымі вінамі.

Атрымаюць таксама прадпрыемствы гандлю нарэшце і беларускія шакаладныя цукеркі, вытворчасць якіх была прыпынена з-за адсутнасці сыравіны. Зараз кандытарскім фабрыкам «Спартак» і «Камунарка» ўжо выдзелены ўрадам сродкі для набыцця какава-зярнят, і яны працуюць у тры змены без выхадных, каб паставіць у продаж неабходную колькасць кандытарскіх вырабаў.

Заўважым, што 1 кілаграм беларускіх цукерак у шакаладнай глазуры будзе каштаваць ад 300 да 900 тыс. рублёў, сярэдні ж кошт салодкіх дзіцячых падарункаў складзе ад 400 да 600 тыс. рублёў.

Добра падрыхтаваліся да Новага года і Каляд буйныя сталічныя універмагі. Так, толькі ЦУМ нарыхтаваў ёлачных упрыгожванняў на 20,2 млрд. рублёў і на 100 млрд. рублёў — тавараў святочнага асартыменту. Для прыцягнення пакупнікоў тут плануецца зніжэнне гандлёвых надбавак з 30-ці да 15—20 працэнтаў, і павелічэнне працоўнага дня 24 і 31 снежня да 23 гадзін.

100 разнавіднасцяў ёлачных упрыгожванняў і каля 20 разнавіднасцяў штучных ёлачак зможа прапанаваць пакупнікам і універмаг «Беларусь». У мінулым годзе тэлевізары «Гарызонт» рэалізоўваліся тут у снежні толькі з 10-працэнтнай надбаўкай і гэта мера дазволіла ўсяго за 10 дзён прадаць 800 апаратаў. Сёлета універмаг «Беларусь» вырашыў паўтарыць сваю мінулагоднюю акцыю.

З прамысловых тавараў, якіх на сённяшні дзень пастаўлена ў гандаль недастаткова, прадстаўнікі Міністэрства гандлю назвалі дзіцячыя цацкі (лялькі айчыннай вытворчасці і драўляныя цацкі), а таксама спартыўныя тавары: лыжы, мазі для іх, хакейныя чаравікі, хакейныя клюшкі, чаравічкі для фігурных канькоў і інш.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

**Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь выказвае глыбокае спачуванне дэпутату ЕНКА Яўгенію Мікалаевічу ў сувязі з напаткаўшым яго горам — смерцю МАЦІ.**

## СОНЦА — СЁННЯ — МЕСЯЦ

| | Усход | Захад | Даўжыня дня |
|---|---|---|---|
| Мінск – | 8.07 | 15.52 | 7.45 |
| Віцебск – | 8.04 | 15.35 | 7.31 |
| Магілёў – | 7.56 | 15.41 | 7.45 |
| Гомель – | 7.46 | 15.46 | 8.00 |
| Гродна – | 8.21 | 16.08 | 7.47 |
| Брэст – | 8.14 | 16.17 | 8.03 |

**Поўня 3 снежня.**
**З 15.31 — 16-ыя месяцавыя суткі.**
**З 23.31 Месяц — у сузор'і Блізнятаў.**

## НАДВОР'Е

Сёння ўдзень па рэспубліцы захаваецца малавоблачнае, без ападкаў надвор'е. Вецер паўднёва-ўсходні, 2—7 м/сек. Тэмпература паветра ў Брэсце, Гомелі — 12—14, Мінску, Магілёве — 11—13, Гродне — 10—12, Віцебску — 9—11 градусаў ніжэй нуля.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 4-га ўначы без ападкаў, удзень — па захаду рэспублікі, 5-га — на большай частцы тэрыторыі снег, месцамі мяцеліца. Вецер паўднёва-ўсходні, 6—11, парывы да 14 м/сек. Тэмпература 4-га ўначы — 18—23, удзень — 7—12, на захадзе рэспублікі ўначы — 11—16, удзень — 4—9; 5-га ўначы — 6—11, удзень — 2—7 градусаў марозу.

АБ'ЕКТЫЎ

*ПОГЛЯД*

# СЕМ ГАДОЎ ПАСЛЯ РАЗВОДУ

## Чаму эканамічны крызіс у суседніх Беларусі і Расіі не адбіўся на жыцці літоўцаў

Тое, што Беларусь і Літва выбралі розныя шляхі развіцця і з кожным годам становяцца ўсё больш не падобнымі адна на адну, заўважаеш ужо на мяжы — напрыклад, на галоўным беларуска-літоўскім пераходзе «Каменны Лог» («Мядзінінкай»).

На літоўскім баку за кароткі час выраслі сучасныя тэрміналы для мытнага і памежнага кантролю за пасажырамі і грузамі. Усе пабудовы і па дызайну, і па якасці не саступаюць падобным збудаванням дзе-небудзь у Скандынавіі ці Германіі: тыя ж «еўраадздзелка», «шклопакеты», чырвоная цэгла і чарапіца. Пасажыры для кантролю запрашаюцца ва ўтульны зал. Сам кантроль з дапамогай сучаснай тэхнікі праводзіцца за лічаныя хвіліны.

На беларускім баку мяжы падобныя функцыі выконваюць аляпаватыя і безгустоўныя металічныя або фанерныя будкі, ці проста сталы-нары пад навесам для агляду багажу.

Нядаўняя сустрэча прэзідэнтаў Аляксандра Лукашэнкі і Валдаса Адамкуса адбылася, натуральна, у літоўскай частцы пагранічнага перахода. На нашым баку ніводная будка прадстаўнічых дэлегацый проста не ўмясціла б.

Літва будавала тэрмінал не за свае грошы: усе работы фінансаваў Еўрапейскі саюз. Што зусім лагічна, паколькі ў хуткім часе Мядзінінкай стане памежным пераходам усяго Еўрасаюза, у якім унутраных кантралюемых межаў, як вядома, няма. Каменны Лог таксама з'яўляецца крайнім пагранічным пунктам мытнага саюза СНД і Саюза Беларусі і Расіі. Аднак абяцаных грошай з Масквы на абсталяванне па сутнасці агульнай мяжы мы чакаем да гэтага часу.

Жыццё простых людзей па абодва бакі мяжы таксама з кожным годам становіцца ўсё больш адрозным. У Ашмянах аўтобус, што ідзе з Мінска ў Вільнюс, запаўняецца мясцовымі цёткамі, якія наперабой просяць пасажыраў пасадзейнічаць перапраўцы праз мытню пляшкі-другой гарэлкі. Вязуць яны не толькі гарэлку, а і сякі-такі харч, які можна выгадна прадаць на віленскіх рынках, — асабліва яйкі.

Гэты пенсіянерскі бізнес апошнім часам сутыкаецца з мноствам перашкод: яйкі ды іншае харчаванне стараюцца адабраць нашы мытнікі, «лішнюю» гарэлку — літоўскія. Так што самадзейны гандаль звязаны з рызыкай і нервовымі нагрузкамі. Затое з кожнай пляшкі, якую ўдаецца пераправіць у Вільню, беларуская пенсіянерка атрымлівае 1 долар чыстага прыбытку. Так што нават пры легальнай норме (1 літр гарэлкі на чалавека) ашмянская бабуля, якой не трэба траціцца на візы (беларуска-літоўскае пагадненне прадугледжвае спрошчаны парадак перасячэння мяжы для «прыгранічных» пенсіянераў), за некалькі паездак у Вільню здольна вылучыць грошай больш, чым плаціць родная дзяржава ў выглядзе пенсіі.

Эканамічны крызіс, якім ахоплена Беларусь і іншыя краіны СНД, на жыцці літоўцаў амаль не адбіўся. У любым абменным пункце валюты ў Вільні як і год, і два, і тры гады таму за 1 долар вам дадуць 4 літы. Гэта не азначае, што ў краіне няма інфляцыі. Яна ёсць, аднак на нашым фоне выглядае непраўдападобна мізэрнай: за 10 месяцаў 1998 года інфляцыя склала 1,8 працэнта. Прычым у асобныя месяцы назіралася зніжэнне цэн. Для прыкладу, у кастрычніку, у той самы час, калі наш спажывецкі рынак быў ахоплены панікай, літоўскія вытворцы харчавання вымушаны былі з сумам канстатаваць, што іх прадукцыя падае ў цане: малочныя прадукты сталі таннейшыя на 1,5-2 працэнты, рыбныя кансервы — на 3,2 працэнта, ялавічына — на 2,9 працэнта. На працягу ўсяго года назіралася зніжэнне цэн на муку, а ў кастрычніку яна патаннела яшчэ на 3,1 працэнта. Затое рэзка падаражэлі яйкі (адразу на 15,7 працэнта), а таксама курыныя ножкі (на 0,9 працэнта). Так што танныя ашмянскія яйкі ў Вільні, натуральна, карыстаюцца попытам. (Пры гэтым варта мець на ўвазе, што сярэдняя зарплата ў Літве сёння вагаецца ў межах 200 долараў).

Паліцы харчовых магазінаў у Літве амаль нічым не адрозніваюцца ад заходнееўрапейскіх. Праўда, прыкметна, што масавы пакупнік аддае перавагу ўсё ж сваім, мясцовым прадуктам, больш даступным па цане. Пры гэтым і па асартыменту, і па ўпакоўцы літоўскае харчаванне нічым не саступае заходняму: большасць перапрацоўчых прадпрыемстваў сталі акцыянернымі таварыствамі, правялі рэканструкцыю з удзелам замежнага капіталу. Паказальна, што на ўпакоўцы многіх літоўскіх прадуктаў (кансервы, масла, кандытарскія вырабы) пасля працяглага перапынку зноў з'явіліся надпісы на рускай (і нават на ўкраінскай) мовах. Гэта азначае, што мясцовыя вытворцы актыўна вяртаюцца на харчовыя рынкі СНД.

Афіцыйная статыстыка сцвярджае, што расійскі эканамічны і фінансавы крызіс на літоўскай эканоміцы фактычна не адбіўся. Літ застаўся стабільным, прамысловая вытворчасць за 10 месяцаў гэтага года ў параўнанні з такім жа леташнім перыядам узрасла на 11 працэнтаў і працягвае заставацца на пад'ёме.

Цікава, што пры гэтым адносіны Вільнюса з Еўрасаюзам зусім не такія бясхмарныя, як часам здаецца ў Мінску або Маскве. Ды і знешнепалітычная арыентацыя суседняй краіны зусім не такая аднабаковая, як прынята лічыць у нас. Красамоўны факт: прэм'ер-міністр Літвы Гедымінас Вагнорус, выступаючы на нядаўнім пасяджэнні сейма са справаздачай урада, заявіў, што краіна мае намер унесці некаторыя карэктывы ў сваю знешнюю палітыку. У цэлым Літва не адмаўляецца ад стратэгічнай мэты — уступлення ў Еўрасаюз і НАТО, аднак, паводле слоў прэм'ера, рабіць гэта будзе не любой цаной, а толькі ў інтарэсах дзяржавы і сваіх грамадзян. Ранейшы энтузіязм уладаў, якія імкнуліся як мага хутчэй распачаць перамовы з ЕС і НАТО і апярэдзіць іншых кандыдатаў, прызнаны празмерным. Пэўныя сілы, у тым ліку і на Захадзе, як заўважыў сп. Вагнорус, **«спрабуюць дасягнуць сваіх мэтаў, што супярэчаць інтарэсам Літвы».** У якасці прыкладу ён назваў патрабаванне Захаду датэрмінова закрыць Ігналінскую атамную электрастанцыю.

Ігналінская АЭС, размешчаная фактычна на мяжы Літвы і Беларусі, мае асаблівае значэнне для абедзвюх нашых краін. Дзякуючы гэтай станцыі Літва не толькі цалкам задавальняе ўласныя патрэбы ў электраэнергіі, але і мае магчымасць актыўна экспартаваць яе — у прыватнасці, у Беларусь. Наша краіна ахвотна купляе літоўскую электраэнергію, паколькі гэта значна танней, чым выпрацоўваць яе на ўласных цеплавых станцыях, спальваючы дарагія газ і нафту. Праблема, аднак, у тым, што ў Беларусі хранічна не хапае валюты, каб своечасова аплачваць гэтыя пастаўкі.

У выніку наш доўг за ігналінскую электраэнергію перавысіў 200 мільёнаў долараў. Беларусь стала найбуйнейшым даўжніком Літвы і пакуль невядома, якім чынам здолее разлічыцца. У многім менавіта гэтай праблемай была абумоўлена нядаўняя сустрэча двух прэзідэнтаў на мяжы ў Мядзінінкаі.

Беларусь і Літва, якія стагоддзямі жылі ў адной дзяржаве і ў якіх у 1991 годзе былі амаль аднолькавыя стартавыя магчымасці, выбралі розную будучыню, розныя арыенціры. Назіраючы за сённяшнімі беларускімі рэаліямі і параўноўваючы іх з рэаліямі літоўскімі, цяжка назваць беларускі выбар абсалютна аптымальным. Зрэшты, заўсёды застаецца магчымасць выкарыстаць суседскі вопыт — была б палітычная воля своечасова прызнаваць дапушчаныя памылкі.

**Валянцін ЖДАНКА.**
Мінск — Вільнюс.

*36,6°*

## ПАГЛЯДЗІМ НА СЯБЕ Ў ЛЮСТЭРКА!

**Станьце тварам і агледзьце сябе перад люстэркам, папярэдне зняўшы адзенне.**

**Калі вы ўбачыце на сваім целе змяненне колеру скуры, высыпанні, пігментацыю ці адчуеце боль, то знайдзіце гэтыя кропкі на малюнку. Потым паглядзіце на табліцу (знізу) і вы зможаце лёгка вызначыць расстройствы ў рабоце вашых унутраных органаў.**




### Змяненні на скуры цела, звязаныя з парушэннямі ў арганізме (высыпанне, колер і г. д.).

**1**. Лёгачныя парушэнні
**2**. Стан капсулы печані
**3**. Узыходная галіна тоўстага кішэчніка
**4**. Зона ўшчамлення прамянёвага, локцевага, пасярэдняга нерваў
**5**. Энергетычны цэнтр дыхання
**6**. Гастрыты
**7**. Жоўцевы пузыр
**8**. Змяненні печані
**9**. Узыходная галіна тоўстага кішэчніка
**10**. Тонкі кішэчнік
**11**. Нырачныя расстройствы
**12**. Мачавы пузыр, прастата
**13**. Парушэнні кровазвароту
**14**. Артрозныя праявы тазасцегнавога сустава
**15**. Сексуальныя расстройствы
**16**. Зніжэнне функцыі стрававання
**17**. Зніжэнне вастрыні зроку
**18**. Печань
**19**. Жоўцевы пузыр
**20**. Сардэчная недастатковасць
**21**. Стан капсулы селязёнкі
**22**. Стэнакардычны сіндром
**23**. Клапанная сістэма сэрца
**24**. Артрыты, ішэмія сэрца
**25**. Энергетычны цэнтр сардэчнага рытму
**26**. Стан селязёнкі
**27**. Падстраўнікавая залоза
**28**. Падстраўнікавая залоза
**29**. Сігмападобная кішка
**30**. Стан ныркі
**31**. Артрозныя праявы ў тазасцегнавым суставе
**32**. Парушэнні кровазвароту
**33**. Сексуальныя расстройствы
**34**. Падстраўнікавая залоза
**35**. Парушэнні кровазвароту ў галёнцы
**36**. Расстройствы палавых органаў
**37**. Палавы орган
**38**. Мачавы пузыр

**«Исцеление».**

## ЧАРАНОК, ЯКІ ЎСЯМУ ДРЭВУ ГАЛАВА

**Наступіў час першай «веснавой работы» — нарыхтоўкі чаранкоў. Гэтаму ў значнай ступені садзейнічалі лютыя маразы. Яны зваліліся як ніколі рана. Ртутныя слупкі паказвалі адзнакі, якіх даўно не ведала Беларусь — лістапад аказаўся халаднейшым на дзесяць градусаў.**

Зразаць трэба аднагадовыя парасткі з самага сонечнага і «цёплага» боку. Там нашы чаранкі выспелі як след. Ні ў якім разе не бярыце з сярэдзіны кроны. Прышчэпы могуць развівацца, але не так, як трэба. Паглядзіце, ці не хворая сама галінка. Асабліва на рак. Увогуле, калі ёсць нейкае сумненне, не давайце работу сякатару. Зніміце галінку якраз тую, якая не выклікае сумненняў. Самі чаранкі ад 20 да 50 см. Усе сяголеткі. Пупышкі на іх сядзяць вельмі густа.

Вядома, лепш працаваць з зямлі, а не гойсаць па дрэве. У такім выпадку найменш пашкодзім кару вялікіх сукоў. Усё ж падмерзла, адзервянела. І калі падэшвы абутку даткнуцца да кары, абавязкова застануцца адзнакі-раны.

Зрэзаныя часткі па сартах з надпісамі простым алоўкам звязаць у снопік і палажыць у снег. Гэта найлепшае месца для захоўвання. Снег абтаптаць. Можна схаваць у спецыяльных ямках. Але тут павінны быць выкарыстаны меры бяспекі. Сакавітыя чаранкі вельмі любяць мышы і пацукі.

Халодны падвал таксама надзейнае месца для захоўвання. Але камялі чаранкоў абавязкова ставіць у пясок (сухі ці паўсухі).

Халадзільнік кватэры — месца для гэтага не самае прыдатнае. Вы заўважылі, што ўсе прадукты там сохнуць? Чаранкі таксама. Часта не выратоўвае і плёнка, у якую папярэдне загортваем свой скарб. Усё ж калі выйсця няма, то будучыя галінкі дрэў тыдзень-другі трымайце ля маразілкі. Але затым вязіце на дачу і закопвайце ў снег.

Нарыхтоўваць чаранкі можна на працягу ўсёй зімы. Перашкода — моцныя маразы. Недзе на мяжы 30 градусаў пупышкі і кара могуць падмярзаць. Такі чаранок прынясе толькі расчараванне. Так што нарыхтоўку рабіце загадзя.

## Сядзіба

*Выпуск № 40 (428)*

**Рубрыку вядзе Мікалай ЧАХОЎСКІ**

## СЛІВЫ З ДЗІРАЧКАМІ

Многія сельскія жыхары летам з сумам назіралі, як падалі долу плады слівы. І ў кожным — маленькая дзірачка, быццам шылам прабітая. То працаваў вусень. Завуць «зладзея» слівовай пладажэркай.

Увогуле гэтых шкоднікаў (дададзім сюды яшчэ і пілільшчыка) у прыродзе вельмі многа. Усе яны дзейнічаюць амаль аднолькава: матылёк у канцы мая—пачатку чэрвеня адкладвае яйкі ў плод ці на мякаць ліста (знізу) па аднаму. А ўсяго бывае некалькі дзесяткаў. Неўзабаве з'яўляюцца самі лічынкі, якія і шкодзяць. Лісточкі бы шкілеты, затым з'яўляюцца і дзірачкі на пладах. За сезон можа развівацца адно пакаленне (умовы дрэнныя) ці нават тры — умовы выдатныя. Сёлетнія ўмовы для шкоднікаў былі не вельмі спрыяльныя.

Меры барацьбы ўключаюць у сябе «хімію». За сезон неабходна да двух-трох разоў апрацаваць дрэвы. Прэпараты розныя — «каратэ», карбафос, тыя, якія прымяняем супраць каларадскага жука.

Вусені перад халадамі запаўзаюць у глебу на глыбіню да 5—15 см, дзе праводзяць зіму ў коканах. Могуць зрабіць для сябе «кватэру» ў трэшчынах дрэва і пад карою. У гэты перыяд іх лёгка знішчыць, калі прыствольныя кругі перакапаць ці проста праскародзіць. Ствалы дрэў «пагабляваць» драцяной шчоткай, а пасля пабяліць. Ля дрэва класці плёнку. Тое, што счысцілі, спаліць.

На нашым малюнку пладажэрка амаль у натуральную велічыню. Побач маладыя плады, дзе яна паспела «пагасціць» і пакаштаваць мякаць.

*З ПОШТЫ*

## ТАК АБКАРАНЯЦЬ РУЖЫ

Ірына Васільеўна Кало жыве ў г.п. Лагішын Пінскага раёна. Набывае ружы, якія ёй прыглянуліся. І абкараняе ў сябе дома. Як?

Першая аперацыя — зняць лісточкі. Абрэзаць верхавінку. Чаранкі садзіць у сумесь тарфакрошкі, пяску і ліставога перагною (роўныя часткі). Глыбіня — да 5-6 см. Моцна паліць цёмна-ружовым растворам марганцоўкі. Накрыць слоікам і паставіць у светлае цёплае месца (без прамых сонечных промняў).

Праз месяц з'явяцца парасткі. Слоік зняць. Можа здарыцца так, што лісцікі падвянуць. Тады слоік паставіць назад на некалькі дзён.

Калі раскрыецца пяты лісцік, другародныя парасткі (вядома, слабейшыя) зняць на кольца. Гадаваць толькі адзін. Праз пяць месяцаў ён зацвіце. Бутон зрэзаць пад першым лісточкам.

Восенню ці летам малады кусцік разам з глебай садзіць у кветнік. Зямля ўгноена арганікай і правапнавана.

ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Савет Рэспублікі Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Палата прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь,
Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: Рэдакцыя газеты «Звязда», вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, 220013, гор. Мінск.*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйнага — 68-27-41, крымінальнай хронікі, сакратарыята — 32-38-02, эканомікі — 32-31-21, палітыкі — 68-28-69, 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: у Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Магілёве — 31-13-75, Паставах — 26-562; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-04-52, 32-31-98.*
*ФАКС: 68-27-79. E-mail: daily@zwyazda.belpak.minsk.by* «ДЛЯ ВАС» — 32-44-12.



Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 101.039. Індэкс 63850.
Зак. № 6978.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12